**Яўгень Пярмяк**

# 777 майстроў

**(КАЗКА)**

На лясной палянцы, у невялічкай вёсачцы жыў Янка. Прыйшоў час Янку да работы прывучацца — майстэрства па сэрцу выбіраць. А якое майстэрства яму па сэрцы выбраць, ён сам не ведае.

Тады бацька яму кажа:

— Ідзі, сынок, у лес. Лес, Янка, семсот семдзесят сем лясных майстроў ведае. Вось і ўбачыш, якім табе майстрам быць.

Не паверыў Янка, што лес семсот семдзесят сем майстроў ведае, бо сам ён ведаў толькі аднаго лясного майстра — дрывасека. Не паслухаў ён бацьку і не пайшоў у лес.

А ў тым годзе лес імяніннікам быў. Ён раз на сто год імяніны спраўляў. Таму што жыццё ў лесе — не адна тысяча год, і кожны год спраўляць імяніны — выдаткі вялікія.

Неяк прачнуўся Янка да сонейка. Не сам устаў, а лаўка яго абудзіла, на якой ён спаў.

— Уставай, — кажа, — Янка, з мяне. Я ў лес пайду.

— Гэта яшчэ што такое? Навошта ў лес?

А лаўка яму:

— Сёння, — кажа, — у лесе свята. Імяніны. Лес усю сваю драўляную радню склікае. І таму, што я таксама драўляная, яго крэўная пляменніца, абавязкова ісці павінна.

Сказала так лаўка і хуценька на сваіх чатырох нагах у лес пабегла.

Янка вачам сваім не верыць. Але за лаўкай і стол, і зэдлікі ў лес збірацца пачалі. Падганяюць Янкаву сям'ю.

— Хутчэй снедайце, пакуль мы не пайшлі.

Бацька, маці, дзядуля з бабуляй спяшаюцца — п'юць-ядуць, лыжкі-міскі мыюць, на ўсё драўлянае глянец наводзяць. Бо на імяніны бруднымі паказвацца нельга.

Ну, добра. Вымытыя міскі, лыжкі, на стол уставіліся, бярозавы венік да ножкі стала прывязаўся, а бочкі, цэбрыкі, кадушкі самі за сталом пакаціліся. Жолаб дублены, у якім жывёлу паілі, і вароты цёсаныя разам з карытамі і карамысламі на воз пачалі грузіцца.



Глядзіць Янка — уся драўляная маёмасць на імяніны ў лес рушыла. Нават старуха-хата і тая прыхарошвацца пачала. У Янкавай бабулі хата кашміравую хустку выпрасіла, потым два ніжнія вянцы замест каткоў пад сябе падсадзіла і пакацілася на іх да лесу.

Бачыць Янка — на двары адна печ ды самавар засталіся, але і тыя спадарожнікаў у лес шукаюць.

— А ты, печка, якая ж ты радня лесу? — пытаецца Янка. — Вы ж з самаварам у лесе не нарадзіліся.

— Так то яно, так, — адказвае печ. — Не ў лесе нарадзіліся, але лясным цяплом хлябы пячэм, капусту варым, чай грэем.

Зусім тут Янка разумнець пачаў. „Ці і мне, — думае, — не пайсці?“ Толькі ён так падумаў, а лапці яго самі ў лес павялі.

— Хадзем, хадзем, Яначка. Мы ж таксама лясныя пляменнікі. У лесе лубам на ліпераслі, з лесу лыкам выйшлі, лапцямі сталі.

Сказалі так і павялі Янку ў лес. Вывелі яго на шырокую дарогу, а па дарозе бачана-нябачана гасцей у лес едзе. І лодкі плывуць, і млыны ідуць, масты крочаць, балалайкі з гітарамі, скрыпкі адна другую абганяюць... Кошыкі, платы, калодкі для хамутоў, дарагая мэбля — лакіраваная, паліраваная, рэдкія футры, каўняры, шкіпінар, дзёгаць, смала, лекавыя корні-травы...

Тысячы тысяч гасцей з усіх валасцей: лесапільнай, смалакурнай, цяслярскай, паляўнічай, сталярнай, дзягцярнай, мэблевай, карабельна-лодачнай... Семсот семдзесят сем лясных майстроў.

Вечарам баль на лясной паляне пачаўся. І Янку паклікалі.

— Прыглядайся, — кажа лес. — Можа, семсот семдзесят восьмым маім майстрам будзеш.

Весела прайшоў баль. Сосны добрай смалы далі. Факелы запалілі. Лясная мурава дыван пасцяліла. Тысячы салаўёў прыляцелі імянінніка славіць. Хорам спявалі. Зайцы, ваверкі, вожыкі танцавалі, прадстаўленні паказвалі.

Потым гасціна пачалася. Салёныя, вараныя грыбы, грыбы жараныя, дзічына розная: курапаткі, цецерукі, глухары, рабчыкі. З брушніцамі, журавінамі, ягадамі. Лясным дзікім мёдам запівалі, арэхамі закусвалі. І чаго толькі на тым піры не было, якіх лясных ласункаў не пададзена! Зразумеў



Янка, якое багацце ў сабе лес трымае, якіх лясных майстроў ён патрабуе, і задумаўся.

Доўга ці коратка думаў Янка, але стаў ён новым, семсот семдзесят восьмым майстрам. А якім — пра гэта казка маўчыць, ды і я сказаць не магу.

У іншых запытайце.

Ю. Якаўлеў

# ЁН ЗАБІЎ МАЙГО САБАКУ

— Можна ўвайсці?

— Заходзь... Як цябе завуць?

— Я — Таборка.

— А імя ў цябе ёсць?

— Ёсць... Саша. Але мяне завуць Таборка.

Ён стаяў на парозе дырэктарскага кабінета, і рукі яму адцягваў вялікі чорны партфель.

— Падыдзі сюды і сядай... Не на беражок крэсла, а як трэба. Што ў цябе за гісторыя?

Таборка паглядзеў на дырэктара і спытаў:

— Гэта вы пра сабаку?

— Пра сабаку?

Хлопчык упёрся позіркам у адну кропку: у куток, дзе вісеў плашч і карычневы капялюш.

— Я баяўся, што з ім што-небудзь здарыцца, і прывёў яго ў школу. У куток жывой прыроды. Бяруць жа вужоў і залатых рыбак. А сабаку не ўзялі. Што ён, дурнейшы за вужоў?

— Дырэктар адкінуўся на спінку крэсла і пецярнёй, як грэбенем, правёў па густых валасах.

— І ты прывёў яго ў клас?

Хлопчык зноў праглынуў сліну і, не адрываючы вачэй ад плашча і карычневага капелюша, сказаў:

— Ён сядзеў ціха. Пад лаўкай. Настаўніца не заўважыла яго. І сябры забыліся, што пад лаўкай сабака, і не смяяліся... Але потым ён зрабіў лужыну.

— І Ніне Пятроўне гэта не спадабалася?

— Не спадабалася... Яна наступіла ў лужыну і падскочыла, як уджаленая. Яна доўга крычала. На мяне і на сабаку. Потым загадала мне выцерці падлогу.

— Усё? — спытаў дырэктар.

— Не, — сказаў хлопчык, — мы яшчэ і ў міліцыі былі.

— А як ты апынуўся ў міліцыі?

Таборка загаварыў адразу:

— Мой сабака не кусаўся. Ён матляў хвосцікам. Ён быў белы, і пад вачыма ў яго былі два рыжыя трохвугольнікі...

Хлопчык гаварыў спакойна, амаль манатонна.

— І жанчыну ён не кусаў. Ён бавячыся схапіў яе за крысо паліто. Але жанчына ірванулася, і паліто парвалася. Яна думала, што мой сабака кусаецца, і закрычала. Мяне павялі ў міліцыю, а сабака бег за намі.

Хлопчык узняў вочы на дырэктара: расказваць далей? Дырэктар сядзеў на краёчку крэсла і груддзю наваліўся на стол. Вочы яго прыжмурыліся. Яны не бачылі нічога, акрамя Таборкі.

— Давай далей.

— У міліцыі нас трымалі дзве гадзіны. Мы стаялі ля сценкі і нечага чакалі. Але ў міліцыі не забілі сабаку. Там адзін, з вусамі, нават пагладзіў яго і даў яму цукру. Аказваецца, сабаку належыцца нумар і намордні́к. Па правілах. Але калі я знайшоў майго сабаку, у яго не было ані нумара, ані намордніка. У яго наогул нічога не было.

— Дзе ты яго знайшоў?

— У пасёлку. Гаспадары пераехалі ў горад, а сабаку пакінулі.

— Завядуць сабаку, а потым кінуць!

Гэтыя словы вырваліся ў дырэк-

тара, і ён раптам адчуў, што пасля іх ужо не зможа ўдарыць кулаком па стале.

Хлопчык не ўхапіўся за яго словы. Ён нечакана запярэчыў:

— Яны кінулі сабаку, але не забілі. Я ўбачыў яго, аддаў яму сваё снеданне, і з таго часу сабака не адыходзіў ад мяне.

— Як звалі твайго сабаку?

— Не ведаю.

— А ты ніяк не назваў яго?

Хлопчык, не разумеючы, глянуў на дырэктара:

— А навошта? У яго ж было імя.

Хлопчык нечакана сціх і так жа нечакана пачаў гаварыць зноў:

— Калі я першы раз прывёў сабаку дадому, яго не было. Мама сказала: „Ад сабакі толькі бруд!“ Які бруд можа быць ад сабакі? Адна радасць! Потым мама сказала:



„Я тваім сабакам займацца не буду. Займайся сам!“ Дык я ж для таго і ўзяў сабаку, каб займацца самому. Мой сабака быў вельмі разумны. Калі я вучыў вершы на памяць, ён глядзеў на мяне і слухаў. А потым прыехаў ён і выгнаў сабаку.

Таборка не адрываў вачэй ад попельніцы, а дырэктар скрыжаваў рукі і паклаў іх пад шчаку і не спускаў з хлопчыка прыжмураных вачэй.

— Што яму перашкаджаў сабака?.. Я не мог выгнаць сабаку. Яго ўжо раз выгналі. Я пасяліў яго ў хлеўчыку. Там было цёмна і сумна. Я ўвесь час думаў аб сабаку. Нават ноччу будзіўся: можа яму холадна? А можа ён баіцца цемры? Гэта, вядома, глупства: сабака нічога не баіцца! У школе я таксама думаў аб ім. Чакаў, пакуль скончацца ўрокі: яго снеданне было ў маёй сумцы. Потым ён заплаціў кару за парванае паліто і выгнаў сабаку з хлеўчыка. Я прывёў яго ў школу. Не было куды з ім падзецца.

Цяпер словы хлопчыка з цяжкасцю вырываліся наверх:

— Я не ведаў, што ён надумаўся забіць сабаку. Мяне тады не было. Ён паклікаў яго і стрэліў яму ў вуха.

У кабінеце зрабілася ціха. Як пасля стрэлу. І доўті час ні дырэктар, ні хлопчык не адважваліся спыніць маўчанне. Нечакана дырэктар сказаў:

— Слухай, Табор! Хочаш, я падару табе сабаку? Нямецкую аўчарку.

Хлопчык адмоўна паківаў галавой:

— Мне патрэбны мой сабака. Я навучыў бы яго ратаваць тапельцаў. У мяне кніжка такая ёсць, як вучыць сабак.

* * *

Дырэктар устаў з крэсла. Ён падышоў да хлопчыка і нахіліўся да яго:

— Ты можаш пагадзіцца з бацькам?

**(Працяг на стар. 7)**



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## ЖАЛЕЗНАЕ ДРЭВА

У СССР узяты пад ахову адзіны ў краіне гай жалезнага дрэва. Ён знаходзіцца ў субтропіках Азербайджана, ля граніцы з Іранам. Гэта дрэва канкуруе з жалезам, раней з яго рабілі дэталі для ткацкіх станкоў. Плануецца рассадзіць жалезнае дрэва ў іншых месцах Каўказа, дзе яно расло мільёны гадоў назад.

## ЛЕКАР ДЭЛЬФІНАЎ

Рэдкая прафесія ў старэйшага навуковага супрацоўніка К. Джынчарадзе з чарнаморскага горада Батумі. Ён лечыць дэльфінаў з мясцовага дэльфінарыума. Штодзень дае ім порцыю вітамінаў, бярэ аналізы крыві ў сваіх пацыентаў, робіць уколы, знімае электракардыяграмы. Дэльфіны ахвотна паддаюцца лекарскім абследаванням.

## ЛЯКАРСТВА З ПАДАРОЖНІКА

На Харкаўскім хімічна-фармацэўтычным камбінаце пачалі прадукаваць новы прэпарат для лячэння язваў страўніка. Робяць яго з вядомага ў народнай медыцыне падарожніка, маленькай раслінкі з жылкаватымі лісткамі, якая расце паўсюдна ўздоўж дарог. Каб упросціць справу збору расліны, пачалі сеяць яе на плантацыях, а для збору лісткоў сканструявана ўжо нават спецыяльная касілка.

## КАНАДСКІЯ БАБРЫ Ў СССР

Біёлагі заўважылі ў азёрах Ленінградскай вобласці і Карэльскай АССР канадскіх баброў. Аказалася, што яны прыйшлі сюды з суседняй Фінляндыі, куды былі прывезены з Канады. Некалькі дзесяткаў баброў перавезлі на новае месцажыхарства — у басейн далёкаўсходняй ракі Амур.

## БАТАНІЧНЫ ЗАПАВЕДНІК

Недалёка ад Курска ляжаць запаведныя землі Стралецкага стэпу. Іх ніколі не датыкаў плуг, і магутныя ўраджайныя пласты зямлі лічацца эталонам чарназёму. Гэтыя месцы называюць „курскай батанічнай анамаліяй“: тут на кожным квадратным метры сустракаецца да 80 відаў раслін.

## АЛМАЗЫ З ГАЗАЎ

Вучоныя Інстытута фізічнай хіміі распрацавалі метад сінтэзу алмазаў з газу. Дробныя алмазныя крышталікі памерам менш мікрона абдзьмухваюць струёй метана пры тэмпературы дзевяцьсот градусаў Цэльсія, і ціску ніжэй атмасфернага. У такіх умовах маленькія крышталікі вырастаюць да патрэбнай велічыні.

## ЦУКАР З СЫРОВАТКІ

На малочным аб'яднанні „Угліч“ у СССР распрацаваны спосаб атрымання малочнага цукру з сыроваткі. З тоны сыроваткі атрымоўваюць да сарака кілаграмаў цукру. Раней сыроватка лічылася непатрэбнай. Малочны цукар прымяняецца ў фармацэўтычнай прамысловасці, кандытарскай справе, у вырабе кансерваў для малых дзяцей.



Едуць санкі. Фота — архіў.

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 18. Олі Рысовай, 12 год.

* ✲ *

СССР, 352400, Краснодарский край, г. Курганинск, ул. Ново-Партизанская, дом 51. Кошелевой Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе, хоча перапісвацца з дзяўчаткамі.

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону, п/о 32, ул. Казахская, дом 69б, кв. 79. Гнутовой Людмиле. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

(Працяг са стар. 5)

## Ён забіў майго сабаку

— Я з ім не сварыўся.

— Але ты з ім не размаўляеш?

— Я адказваю на яго пытанні.

— Ён цябе біў калі-небудзь?

— Не памятаю.

— Абяцай мне, што ты пагодзішся з бацькам.

— Я буду адказваць на яго пытанні... Пакуль не вырасту.

— А што ты будзеш рабіць, калі вырасцеш?

— Я буду бараніць сабак.

Дырэктар моўчкі прайшоўся па кабінеце і вярнуўся на сваё выгоднае крэсла. А хлопчык узяў сумку і пайшоў да дзвярэй.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

## СКАЖЫ „А-А-!“

Яна пасадзіла яго перад сабою:

— Раскрый роцік! Скажы „А-а-!“

— Гаў!

— Не жартуй. Давай я табе дапамагу. Кажы: „А-а-а!“

— Гаў.

— Трэба слухацца. Давай я табе прытрымаю язычок. Але не цісні мне зубамі пальцы. Кажы: „А-а-а!

— Гаў.

— Рабчык, пакажы горлачка. Бо потым ад горлачка забаляць грудкі. А потым і ножкі. І памрэш, як бабуліна курка. Кажы: „А-а-а!“

— Гаў.

— Ты хочаш есці марожанае? Скажы, хочаш?

У яго вачах хітраватыя іскрынкі.

— Хочаш, па вачах бачу, што хочаш. Кажы: „А-а-а!“

— Гаў.

— Рабчык! Я так не гуляю. Так несумленна! — сказала Аксанка. І гуляючы, клепанула далонькаю Рабчыка па месцы, адкуль яго хвосцік расце.

Ён на радасцях, што вырваўся з рук „лекара“, апісаў вакол Аксанкі кола. І яна кінулася яго даганяць.

* * *

— Мама, нас сёння лекар слухаў, — хваліцца маленькая Марылька, вяртаючыся з прадшколля.

— І што ён слухаў?

— Ці дыхаем мы ці не.

# АДГАДАНКА



**Які рыбак злавіў рыбку?**

---

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**